# Голас Радзімы

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 17000 рублёў.

11 САКАВІКА 1999 ГОДА
№ 10 (2620)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.

**АСОБА**

## Міхаіл САВІЦКІ:
# «МОЙ АРХАНГЕЛ МІХАІЛ...»



МЫ СУСТРЭЛІСЯ з мастаком у яго майстэрні.

***— Што вы пішаце, Міхаіл Андрэевіч?***

— Я напісаў сёння Архангела Міхаіла... Можаце глядзець...

***— ...Сумны Архангел Міхаіл. Архістратыг усіх бесцялесных сіл...***

***А побач з Пушкіным — хто?..***

— Адам Міцкевіч. Ён быў сасланы ў Расію. І яны вельмі часта сустракаліся. Пушкін чытаў свайго "Барыса Гадунова". Міцкевіч — імправізацыі...

Партрэт аказаўся вельмі складаны тым, што гэтыя людзі — зусім розныя. Яны — неверагодна розныя... Рознае мысленне. Розная паэзія... Розныя — па ладу жыцця. Два геніяльныя славяніны, а вельмі розныя. Мне было цяжка напісаць іх. Вось, як вы думаеце, які ў іх павінен быць фон?..

***— Духоўны, нябесны, складаны...***

— Так! Складаны фон. Я рабіў — такое неба — яно не пайшло. Потым думаў на фоне класічнай архітэктуры іх зрабіць... Пабудаваў калоны, праёмы. Яшчэ горш стала... Тады я ўзяў — цёмны фон, накшталт дуба, ліпы — дрэва... Амаль усё закрыў... Дзве плямы, накшталт парку... лепш стала... І ўсё роўна я быў не задаволены. І потым перайшоў вось на гэта: што яны нібыта недзе...

***— Стыхіі жыцця!***

— Так. Гэта што — дзень? Ноч? Незразумела.

***— Сусвет. Яны — па-за архітэктурай. Усюды. Па-за часам. І ў рацэ часу.***

— Вечнасць імклівая...

***— Мне Пушкін ваш, ды і ўвогуле — Пушкін — больш падабаецца!.. Ён і паставай увесь такі прыгожы... Просты.***

— Свецкія дамы гаварылі, што Пушкін "вытанчана непрыгожы"...

***— А вось Архангел ваш, сапраўды, дзіўны!..***

— Архангел Міхаіл не толькі сумны, але самотны.

***— Ён, нават больш вам скажу, нейкі абсалютна сам у сабе...***

— Яму ж давядзецца столькі людзей у пекла адправіць...

***— О, не! Мяне ён аднойчы выратаваў, у вельмі цяжкую хвіліну — менавіта зварот да яго, першага каля Хрыста.***

— Таму і імя яму перакладаецца: "як Бог"...

***— Калі вам было 75 гадоў, шукала для вас ікону Архангела Міхаіла — і не знайшла... А вы самі напісалі...***

— Я павінен быў напісаць. У мяне ж была гісторыя з іконай...

...Я, калі дэмабілізаваўся, вырашыў, што мне ўсё-такі іншага шляху няма — як толькі стаць мастаком. У арміі я ўжо пісаў партрэты палкаводцаў і генералісімусаў і плакаты там розныя...

Я прывёз з сабой фарбы. Зрабіў падрамнік. Загрунтаваў палатно. Пайшоў пісаць эцюд з натуры — першы раз у жыцці. У нас ад дома — такі бугор высокі... Мясцовасць перасечаная, сад на пагорку, абсаджаны елкамі, якія не высякалі. А пасля вайны — адна елачка засталася — ад партызан, ад заслонаўцаў немцы высеклі і сад.

Былі векавыя ліпы, такія, што і не абхопіш, — немцы ўсе высеклі. Было жыта, яно засталося, і дарога засталася. І вось я ўладкаваўся ў жыце і стаў пісаць дарогу... Жыта і елачку. Ніхто не ходзіць... Нікога... І раптам:

— Бог у помач.

Я сказаў — дзякуй. Жаночы голас. Ці мала хто там сказаў?.. Баба... І пайшла далей. Яна: "Божай справай займаецеся..." Азірнуўся: манашка... Ніколі не бачыў. Ні да вайны, ні ў вайну... Не бачыў манахаў...

Пастаяла, пагаварыла і падарыла мне іконку Міхаіла Архангела... Звычайная, друкаваная, абразок... І цяпер недзе захоўваецца.

***— Фантастыка... І яна не ведала, што вы — Міхаіл?***

— Не, не ведала...

Да мяне італьянец прыходзіць, аматар мастацтва. Ён здзіўлены, што ў наш час і такі глыбокі мастак: напішце мне анёла. Я прывязу вам многа фарбаў масляных "і франка", напішыце мне анёла. А я думаю: закампаную я Архангела Міхаіла. Напісаў...

***— Не, Міхаіл Андрэевіч, не аддавайце свайго святога італьянцу. Не аддавайце... Напішыце яму анёла...***

***Прайшоў год. Што вы напісалі?***

— Вы мне нагадалі: мне трэба ў акадэмію напісаць справаздачу — чым я займаўся год.

***— Няўжо? І вам трэба рабіць справаздачу?***

— Так. Мауляў, на гуманітарным аддзяленні лічацца два мастакі. Дайце справаздачу. Чаму мы не ведаем, што яны робяць? Але колькі ні пішы справаздач — яны ўсё роўна не зразумеюць, чым я займаюся і што раблю...

***— Не аддадзіце свайго Архангела Міхаіла?***

— Чаму? Аддам... Шавец заўсёды без ботаў. Заўсёды прадае... боты.

***— Што вы, Міхаіл Андрэевіч, на вас такія цудоўныя боты.***

— Так? Старэнькія валёнкі. Вось — падшыў... Ім многа-многа гадоў. Яшчэ даваенныя, напэўна — з белай воўны.

***— Ад Архангела Міхаіла — не адысці... Не аддавайце... Нельга... У ім — уся ваша творчасць. Дасканаласць.***

— Адкуль вы ўсё ведаеце?! Сын Андрэй прыйшоў, паглядзеў і таксама сказаў: трэба падумаць — аддаваць ці не...

Гутарыла **Вольга ЯГОРАВА.**

**АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

Добры дзень, паважаная рэдкалегія газеты "Голас Радзімы"!

Рада беларускай абшчыны "Світанак" у Кіргізіі гаворыць вам вялікае дзякуй за рэгулярную дастаўку газеты, якая з'яўляецца адзіным сродкам інфармацыі з нашай Радзімы. Мы яе заўсёды чакаем і чытаем з вялікай цікавасцю, радуемся поспехам роднай Беларусі. Але ж нам яшчэ хацелася б, каб у вашай газеце, калі гэта магчыма, друкавалася невялікая рэклама аб тым, якія ў вас ёсць беларускія тавары для гандлю ў замежжы і іх цана. Нашых беларусаў цікавіць таксама цана на будынкі і кватэры ў Беларусі.

Трохі аб нашай абшчыне. Яна створана 20 студзеня 1993 года ініцыятыўнай групай беларусаў з дапамогай пасольства Рэспублікі Беларусь у Кіргізіі. Беларусы Кіргізіі аб'ядналіся для таго, каб удалечыні ад нашай Радзімы зберагчы сваю родную мову, свае звычаі і традыцыі, сваю культуру. Дзейнасць Рады абшчыны накіравана таксама на тое, каб актыўна ўдзельнічаць ва ўсіх сустрэчах, мерапрыемствах, якія праводзяць грамадскія арганізацыі, урад і Асамблея народа Кіргізіі для захавання сяброўскіх сувязей з усімі народамі, што жывуць на яе тэрыторыі. І шмат іншых мерапрыемстваў, накіраваных на падтрымку беларусаў, якія не па сваёй ахвоце засталіся ў далёкім замежжы ў якасці нацыянальных меншасцей.

Здароўя вам і ўсяго найлепшага ў вашай працы і ў жыцці.

З павагай

**Н. МІРОНАВА,**
**старшыня беларускай абшчыны "Світанак".**

* * *

Паважаная рэдакцыя!

"Голас Радзімы" я атрымліваю даўно, і дасюль газета мне вельмі падабалася, асабліва апошнімі гадамі. Не так даўно, аднак, мы заўважылі, што ў ёй шмат змянілася.

Чытаем і разважаем, у якім напрамку будзе скіраваны "Голас Радзімы" цяпер. № 2—3 быў надрукаваны на вельмі шурпатай паперы, але затое № 4 выглядае добра, і артыкулы змястоўныя і цікавыя.

На маю думку, словы: "Весткі з Беларусі" ў беларускай мове павінны застацца і знаходзіцца на першым месцы і на першай старонцы на левым баку паралельна з датай, што друкуецца на правым баку ўгары.

Прашу даслаць мне № 1 за гэты год, якога я не атрымала.

**P. S.** Нам вельмі спадабаліся вершы "пералётнай птушкі" — Іны Снарскай з Украіны.

**В. РАМУК.**

ЗША. Чыкага.

3 стар.

**ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА**

## Ад 4 да 14



**● У "Лясной азбуцы" 28 літар. На гэты раз ты зможаш запомніць яшчэ 9.**

**● Хто самы здагадлівы і хуткі? Можа ты? Тады хутчэй прысылай нам сваю разгадку малюнка-загадкі.**

**● "Аповесць мінулых гадоў" — адметная каштоўнасць у скарбніцы сусветнай культуры. Яе павінны ведаць і дарослыя, і дзеці, кожны, хто лічыць сябе адукаваным чалавекам, хто неабыякавы да мінуўшчыны сваёй Радзімы і яе будучыні.**

4-5 стар.

## Тыдзень: Фотафакты. Падзеі.



25—26 лютага Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка наведаў Маскву і прыняў удзел у пасяджэннях Міждзяржаўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі і Расійскай Федэрацыі і Савета кіраўнікоў урадаў пры Міждзяржаўным Савеце.

*На здымку:* у час сустрэчы Прэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Таджыкістан.



У Драгічынскім раёне работу па вылучэнню кандыдатаў у мясцовыя Саветы праводзіць тэрытарыяльная раённая выбарчая камісія. Усе кандыдатуры ўжо вызначаны, і камісія вядзе рэгістрацыю кандыдатаў у дэпутаты. Гэта вядомыя і паважаныя ў раёне людзі, каля трэці з іх ужо выбіраліся, а значыць, маюць вопыт работы, карыстаюцца даверам людзей.

*На здымку:* члены камісіі Васіль ГАНЧАР, Святлана КАСМЯНЧУК, Сяргей КЛІМЧУК, Галіна САЛІВОНЧЫК і старшыня камісіі Пётр ПРАТАСАВІЦКІ.







У алімпійскім спарткомплексе "Раўбічы" прайшоў Кубак Беларусі па біятлону. У гэтых спаборніцтвах прынялі ўдзел каля ста біятланістаў Беларусі.

*На здымках:* на агнявым рубяжы; пераможца ў спрынтэрскай гонцы на 10 кіламетраў сярод мужчын майстар спорту міжнароднага класа (Віцебская вобласць) Ігар ПЕСЦЕРАЎ. — **Фотахроніка БелТА.**

**АФІЦЫЙНА**

## З НАГОДЫ III УСЕБЕЛАРУСКАГА ФЕСТЫВАЛЮ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР

Днямі ў Міністэрства культуры былі запрошаны прадстаўнікі пасольстваў, старшыні нацыянальна-культурных суполак. Мэта сустрэчы — пытанні, звязаныя з правядзеннем III Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур. Але, натуральна, размова выйшла далёка за фестывальныя рамкі.

Міністр культуры А. Сасноўскі праінфармаваў аб тым, што робіцца для ўмацавання культурных сувязей з краінамі блізкага і далёкага замежжа. Гэтаму не ў апошнюю чаргу садзейнічаюць Дні культуры. Яны прайшлі ў расійскіх гарадах Краснадары, Стаўрапалі, у бліжэйшы час беларускія дзеячы культуры і мастацтва наведаюць старажытны Яраслаўль. Калі не перашкодзяць абставіны, то красавіку Дні культуры Беларусі адбудуцца ў Югаславіі, а ў верасні — у далёкай Японіі. Вядуцца таксама перамовы з пасольствам Літвы аб падпісанні культурнага супрацоўніцтва паміж абедзвюма краінамі. У аднаўленні такога супрацоўніцтва зацікаўлена таксама Балгарыя.

Старшыня Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей А. Білык паведаміў прысутным, што, паводле перапісу 1989 года (даныя перапісу 1999 года яшчэ невядомыя), у Беларусі пражывае 123 нацыянальнасці — крыху болей за 21 працэнт ад асноўнай. Але, тым не менш, у дзяржаўнай палітыцы адсутнічае падзел грамадства на большасць і меншасць.

А. Білык падкрэсліў, што фестываль нацыянальных культур нарадзіўся ў роздумах аб нацыянальнай палітыцы. Культура, як нішто іншае, дае магчымасць кожнаму чалавеку адчуць сваю адметнасць, каштоўнасць і разам з тым аб'ядноўвае народы.

*Пра III Усебеларускі фестываль нацыянальных культур чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў нашай газеты.*

**Марта КОСЦІЧ.**

**ВЫНІКІ КОНКУРСУ**

## БЕЛАРУСКІ «ОСКАР» ДЛЯ БІЗНЕСМЕНАЎ: НОВЫЯ ЎЛАДАЛЬНІКІ

Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый падвяло вынікі конкурсу на званне "Лепшы прадпрымальнік 1998 года". Вызначаны пераможцы ў 9 намінацыях.

Конкурс праводзіцца ў рэспубліцы ўсяго другі год, але цікава, што, нягледзячы на крызіс, заявак на ўдзел паступіла намнога больш, чым у мінулым годзе. Тры фірмы сталі пераможцамі ў сваіх намінацыях другі раз, набраўшы больш за ўсё балаў і па выніках 1997-га, і па выніках 1998 гадоў. Гэта таварыства з абмежаванай адказнасцю (ТАА) "Трайпл", сямейнае прадпрыемства "Белінтэртранс" і вытворча-камерцыйная фірма (ВКФ) "Спадарожнік".

**Лепшымі прадпрымальнікамі 1998 года сталі:**

**У сферы вытворчасці**

Пераможца:

ЧЫЖ Юрый Аляксандравіч — ТАА "Трайпл" (г. Мінск),

Лаўрэаты:

МАШЭНСКІ Міхаіл Леанідавіч — сумеснае прадпрыемства (СП) "Санта-ІмпексБрэст" (г. Брэст);

МАРТЫНАЎ Мікалай Васільевіч — ТАА "Прадпрыемства "Марко" (г. Віцебск).

**У сферы вытворчасці — малы бізнес**

Пераможца:

БУЛГАКОЎ Аляксандр Уладзіміравіч — ТАА "Белінтэрпайп" (г. Магілёў).

Лаўрэаты:

ЗОЛЬНІКАЎ Віктар Рыгоравіч — навукова-вытворчае прадпрыемства "Рыпрэн" (г. Мінск);

МАРТЫСЮК Анатоль Ісакавіч — прыватнае малое прадпрыемства "Заходняе" (г. Камянец, Брэсцкая вобласць).

**У сферы будаўніцтва**

Пераможца:

ЗУХАВІЦКІ Уладзімір Львовіч — вытворча-камерцыйнае прадпрыемства "ЗОВ" (г. Гродна).

Лаўрэаты:

ВІТКОЎСКІ Мечыслаў Станіслававіч — прадпрыемства "Рытм" (Мінскі раён);

КАПУСЦІН Валянцін Аркадзьевіч — ТАА "Вытворчая кампанія "Экспрэс" (г. Віцебск).

**У сферы транспартных паслуг**

Пераможца:

ДОЎНАР Вячаслаў Іванавіч — ТАА "Белінтэртранс" (Мінскі раён).

Лаўрэаты:

ТРУХАНОВІЧ Аляксандр Васільевіч — ТАА "Міндавг" (г. Мінск);

СІНКЕЛЬ Раман Іосіфавіч — прыватны прадпрымальнік (Гродзенскі раён).

**У сферы гандлю**

Пераможца:

НІЗОЎЦАЎ Генадзь Пятровіч — ВКФ "Спадарожнік" (г. Магілёў).

Лаўрэаты:

ЧАБАНЯН Васкан Айказавіч — ТАА ПКФ "Нелі" (г. Мазыр, Гомельская вобласць);

ДЗІЎНЕЛЬ Іван Альфонсавіч — ТАА "Волга" (г. Гродна).

**У сферы грамадскага харчавання**

Пераможца:

ЧАРКОЎСКІ Юрый Францавіч — ЗАТ "Дэлюр" (г. Мінск).

Лаўрэаты:

ДУГАР Рыгор Аляксеевіч — вытворча-гандлёвая фірма (ВГФ) "Парнас" акцыянернае таварыства закрытага тыпу (АТЗТ) "БелРос" (г. Горкі Магілёўская вобласць);

ЮДЗІЦКАЯ Аляксандра Іванаўна — камерцыйна-вытворчае прадпрыемства (КВП) ТАА "Каласок" (г. Гомель).

**У сферы бытавых паслуг**

Пераможца:

БУТКОЎСКІ Валянцін Пятровіч — прадпрымальнік без утварэння юрыдычнай асобы (г. п. Лельчыцы, Гомельская вобласць).

Лаўрэаты:

ЦЫРТКОЎ Уладзімір Фёдаравіч — малое прадпрыемства (МП) "Сервіс-Цэнтр ДФ" (г. Мінск);

ГУЛЕВІЧ Таццяна Мікалаеўна — прыватны прадпрымальнік (ПП) "Імідж-салон" (г. Брэст).

**У сферы іншых паслуг**

Пераможца:

ЦЮЦЮНІК Сяргей Анатольевіч — ЗАТ "Беларуская судаходная кампанія" (г. Мінск).

Лаўрэаты:

АВЯР'ЯНАЎ Юрый Робертавіч — ЗАТ "Гандлёвы Свет "Кальцо" (Мінская вобласць);

УРОНІЧ Вячаслаў Федасеевіч — ТАА "Аграпрамсервіс" (г. Брэст).

**Лепшая сялянска-фермерская гаспадарка**

Пераможца:

МАКЕЙ Міхаіл Францавіч — фермерская гаспадарка "Верас" (в. Казловічы, Зэльвенскі раён, Гродзенская вобласць).

Лаўрэаты:

ШРУБ Міхаіл Рыгоравіч — сялянская гаспадарка (г. п. Тураў, Жыткавіцкі раён, Гомельская вобласць);

ДАЦКЕВІЧ Мікалай Іванавіч — фермерская гаспадарка "Зубр" (Пружанскі раён, Брэсцкая вобласць).

**Курсы валют на 2 сакавіка 1999 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 |
| Абсалютбанк | 265000 | 275000 | 148900 | 154500 | 11300 | 12000 |
| Белбізнесбанк | 270000 | 275000 | 152000 | 154500 | 11700 | 12000 |
| Белкаапбанк | 260000 | 275000 | 145000 | 154000 | 11300 | 12000 |
| Мінсккомплексбанк | 260000 | 275000 | 145100 | 154500 | 11300 | 12100 |
| Пріорбанк | 265000 | 275000 | 148000 | 154500 | 11000 | 12000 |
| Цэнтрабанк Расіі | 22.89 | | 12.87 | | — | |

Аперацыі з валютай звыш 1000$ выконваюцца на дагаворных умовах.

На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца.

1 — Пакупка. 2 — Продаж.



БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ

# МАЦУЕЦЦА АСНОВА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ СТАСУНКАЎ



1 сакавіка ў Мінску было падпісана Пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам нацыянальнай палітыкі Расійскай Федэрацыі. З беларускага боку дакумент завізіраваў старшыня камітэта Аляксандр Білык, з расійскага — міністр Рамазан Абдулатыпаў, які дзеля гэтага з двухдзённым візітам прыехаў у Беларусь. У склад дэлегацыі таксама ўвайшлі намеснік міністра Уладзіслаў Туманаў, прэзідэнт Асацыяцыі культурных і эканамічных сувязей з Рэспублікай Беларусь Францішак Каўрыга, дырэктар Дзяржаўнага мемарыяльнага гісторыка-літаратурнага і прыродна-ландшафтнага музея-запаведніка А. С. Пушкіна Георгій Васілевіч і іншыя асобы.

Напярэдадні падпісання дакументаў Р. Абдулатыпава прыняў міністр замежных спраў — віцэ-прэм'ер Беларусі Урал Латыпаў. У час сустрэчы апошні падкрэсліў, што, нягледзячы на тое, што паміж беларускім і расійскім народамі адсутнічаюць канфлікты на нацыянальнай глебе ці нават супярэчнасці, пагадненне будзе спрыяць паляпшэнню адносін паміж дзвюма краінамі ў сферы культуры і нацыянальных адносін. Асабліва карысны гэты дакумент тым, што непасрэдна ўлічвае інтарэсы беларускай дыяспары ў Расіі і расійскай на тэрыторыі нашай дзяржавы. Дарэчы, як прагучала на сустрэчы, колькасна яны прыкладна роўныя: па 1,2—1,3 мільёна чалавек.

Падчас падпісання пагаднення ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Р. Абдулатыпаў падкрэсліў, што гэты акт адпавядае жаданням беларусаў і расіян жыць у дружбе. А. Білык заўважыў, што пагадненне не з'яўляецца па сутнасці міжведамасным дакументам, а закранае сферу дзейнасці шэрагу іншых дзяржаўных органаў, таму для яго рэалізацыі неабходны агульныя намаганні. Старшыня камітэта таксама паведаміў, што ў красавіку гэтага года ў Маскве будзе падпісаны пратакол да пагаднення, дзе будуць вызначаны канкрэтныя мерапрыемствы, якія бакам належыць рэалізаваць у недалёкай перспектыве.

Знаходжанне дэлегацыі ў Доме дружбы не абмяжавалася толькі падпісаннем памянёнага дакумента. Адбылася таксама жывая, зацікаўленая размова, паколькі на сустрэчу прыйшлі прадстаўнікі таварыства "Беларусь — Расія", беларускія мастакі, пісьменнікі, кампазітары. Словам, сустрэча перарасла ў цікавую імпрэзу.

За час знаходжання ў Мінску члены расійскай дэлегацыі сустрэліся з прадстаўнікамі рускіх і татарскіх нацыянальна-культурных аб'яднанняў Беларусі, Р. Абдулатыпаў даў інтэрв'ю Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



*У час падпісання пагаднення.*

*Фота Віктара СТАВЕРА.*

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Пішa вам настаўнік гісторыі Алег Бяскроўны.

Мне вельмі падабаюцца артыкулы пра гістарычнае і культурнае мінулае нашай краіны. Гэта матэрыялы пад рубрыкай "Нашы славутыя землякі", гісторыі беларускіх гарадоў, славутых магнацкіх родаў. Па культуры: жыццё і дзейнасць беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, артыкулы аб фальклоры, абрадах, рэлігійных святах беларусаў.

Выказваю вам шчырую падзяку за добрыя артыкулы на гэтыя тэмы.

Хацелася б, каб было больш гістарычных звестак аб гарадах і вёсках Беларусі з цікавымі фотаздымкамі, археалагічных помніках сёння, жыцці беларусаў за межамі Радзімы.

Добра было б, каб былі думкі і погляды на сучаснае жыццё беларусаў у нашай краіне.

Але я звяртаюся яшчэ і з просьбай.

Вы, можа, маеце адрас "Чырвонага Крыжа" ў Франкфурце-на-Майне? Ці параіце, куды напісаць, каб атрымаць яго.

І яшчэ. Мая бабка Валянціна АНТОНЧЫКАВА (гэта яе дзявочае прозвішча, зараз САЎКОВА), якая жыве ў в. Меркулавічы Чачэрскага раёна, Гомельскай вобласці, шукае свайго роднага брата АНТОНЧЫКАВА Васіля, які з таго месцажыхарства ў 1941 годзе апынуўся за мяжой (праз палон) і пазней застаўся ў гэтых краінах: ЗША, Англія, Францыя. Як вы бачыце, звесткі вельмі "расплывістыя", але я быў бы ўдзячны за аб'яву ў газеце па гэтых краінах.

Брэсцкая вобласць, в. Лінова.

*Ад рэдакцыі.* Дзякуй за пісьмо і меркаванні ў ім аб нашай газеце. Адрас Чырвонага Крыжа, які вас цікавіць, можна атрымаць праз Германскі Чырвоны Крыж. Яго адрас: 146053004, Германія, D 53113 Бон Фрыдрых Эберт Алее, 71; Тэлефон (код 49) 2285410, факс (код 49) 228 54 11290.

* * *

*СЛОВА ДА ЧЫТАЧОЎ.*

**Шаноўныя спадарства! Мы атрымалі на наш зварот да чытачоў ("ГР" № 50) шмат вашых водгукаў. Рэдакцыйны калектыў кранула тое, з якой зацікаўленасцю і даверам вы выказваеце свае меркаванні аб прачытаным у газеце, дзеліцеся сваімі турботамі. Мы ўдзячныя за падтрымку нашага намеру зрабіць "Голас Радзімы" агульнай беларускай газетай і за разуменне той складанай эканамічнай сітуацыі, у якую трапіла выданне. Адсутнасць сістэмы падпіскі, бясплатная рассылка ставіць існаванне газеты пад пагрозу. Мы шукаем выйсце і хацелі б параіцца з вамі, нашы чытачы.**

**Ёсць некалькі шляхоў распаўсюджання газеты. Найбольш зручны — падпіска. Але па каталогу яе могуць здзейсніць, наколькі мы ведаем, толькі ў Літве. Таму звяртаемся да беларускіх суполак у гэтай краіне садзейнічаць распаўсюджанню газеты праз падпіску.**

**Другая магчымасць: наладжанне продажу газеты па дагаворнай цане праз асобных распаўсюджвальнікаў. Хто мае такую магчымасць, адгукніцеся.**

**Своеасаблівай аплатай газеты чытачамі з Расіі і Украіны можа быць паштовы перавод на адрас "Голасу Радзімы". З іншых краін грошы можна пераводзіць на валютны рахунак:**

**№ 3012202935017 Славянскае аддзяленне Беларускага бізнесбанка, код 834, абавязкова з паметкай: "Для рэдакцыі газеты "Голас Радзімы".**

**З 25 лютага ўстаноўлены наступны кошт перасылкі газеты бандэроллю:**

**Еўропа: 20—100 грамаў — 159 тысяч рублёў, 100—250 грамаў — 390 тысяч рублёў. Азія: адпаведна, 160 і 417 тысяч рублёў. ЗША, Аўстралія: (наземным шляхам) 167 і 420 тысяч рублёў.**

**Тарыф на перасылку бандэроляў у краіны СНД складае за 20—100 грамаў — 21 тысячу рублёў, за 100—250 грамаў — 59 700 рублёў.**

**Спадзеючыся на разуменне і падтрымку чытачоў, мы адчуваем сваю асабістую адказнасць за існаванне газеты "Голас Радзімы" і імкнемся рабіць усе неабходныя захады, каб дабіцца прыярытэтнай увагі дзяржавы, а таксама перайсці да самафінансавання. Аптымізму у гэтай складанай сітуацыі надае ўпэўненасць, што наша беларуская газета патрэбная вам, шаноўныя суайчыннікі.**

ВЫСТАВЫ

# ВЯРТАННЕ МІХАСЯ МЯЛЕШКІ

***Гэтымі днямі ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва адбылася значная падзея, да арганізацыі якой прычыніліся асноўныя архіўныя ўстановы Беларусі, а таксама Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі. Гаворка — пра выставу, прысвечаную жыццю і дзейнасці Міхася Мялешкі.***

Шырокай грамадскасці гэта імя пакуль што мала вядомае. Дый спецыялісты дасюль далёка не ўсё ведалі пра гэтага чалавека. Так, у шасцітомным бібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" сказана, што Міхась Мялешка памёр пасля красавіка 1931 года. У сапраўднасці ж ён пражыў на дзесяць гадоў болей. Справа ў тым, што ў 1930 годзе Міхася Вінцэнтавіча абвінавацілі ў прыналежнасці да міфічнага "Саюза вызвалення Беларусі" і асудзілі на высылку. Так назаўсёды абарвалася жывая повязь з Беларуссю. Высылку (тэрмінам на пяць гадоў) разам з сям'ёй адбываў у Самары. У 1938 годзе пакараны зноў, цяпер ужо на турэмнае зняволенне. У 40-м вызвалены, але ўжо безнадзейна хворым... Тыповы лёс аднаго з тысяч беларускіх адраджэнцаў.

Нарадзіўся Міхась Мялешка ў 1892 годзе ў вёсцы Скары Віленскага павета Віленскай губерні ў сям'і рыбака. Юнаком пакінуў азёрны край і паехаў да дзядзькі ў Пецярбург, маркуючы там набыць адукацыю, але давялося працаваць. У горадзе на Няве далучыўся да беларускага адраджэнскага руху, наведаў гуртох, якім кіраваў Браніслаў Эпімах-Шыпіла. На гэты час прыпадаюць яго выступленні ў беларускім друку — "Нашай Ніве" і "Маладой Беларусі". У 1914 годзе пайшоў у войска, потым трапіў у Беларусь і ў 1918-м пастугіў на Віцебскае аддзяленне (археаграфічны факультэт) Маскоўскага археалагічнага інстытута. Менавіта працай на гэтай дзялянцы ён і пакінуў найбольш значны і выразны след. Мялешка стаяў ля вытокаў арганізацыі на дзяржаўным узроўні архіўнай справы на Беларусі. Быў намеснікам загадчыка Цэнтрархіва БССР. Адначасова М. Мялешка працаваў у Інбелкульце, потым у Беларускай акадэміі навук. У 20-я гады напісаў дзве працы "Сацыялістычны рух на Беларусі ў пракламацыях 1905 г." (1927) і "Камень у веранях і паданнях беларуса" (1929), якія, як сцвярджае аўтарытэтны даследчык спадчыны М. Мялешкі Віталь Скалабан, з'яўляюцца класічнымі.

Выстава, пра якую гаворка, налічвае 73 адзінкі. Людміла Сакалова беражліва ашчаджала і захоўвала ўсё, што звязана з памяццю бацькі, верачы, што ў рэшце рэшт збудзецца яго любімае выказванне: "Загляне сонца і ў наша ваконца". Бацькава любоў да Беларусі перадалася і ёй, а яна, у сваю чаргу, перадала яе сваёй дачцэ-кампазітарцы.

Не маючы магчымасці працаваць на карысць роднага народа, М. Мялешка быў уважлівым да духоўнай спадчыны краю, з якім яго звязаў лёс выгнанца. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца выданне кнігі "Славуты настаўнік, краязнавец і эксперыментатар Г. Дз. Смагін" (1936). Цікава, што на народныя тэксты, запісаныя Міхасём Мялешкам, яго ўнучка, кампазітарка Наталля Спічко напісала вакальны цыкл "Самарскія туесок", які гучыць па ўсесаюзным радыё ў выкананні народнага артыста СССР Артура Эйзена.

Добрым словам варта згадаць імя беларуса з Пецярбурга — Міколу Нікалаева, доктара навук, адказнага супрацоўніка Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай бібліятэкі, слыннага даследчыка нашай нацыянальнай рукапіснай спадчыны, які спрыяў вяртанню набыткаў свайго земляка на Беларусь.

Перад адкрыццём выставы адбылося пасаджэнне (своеасаблівая невялікая адмысловая канферэнцыя), дзе выступілі аўтарытэтныя беларускія гісторыкі, архівісты, сярод якіх быў і старшыня Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь А. Міхальчанка, яго намеснік У. Адамушка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Г. Запартыка, названы вышэй супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы В. Скалабан, іншыя, а таксама маладыя, але перспектыўныя даследчыкі, студэнты архіўнага аддзялення гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта Уладзімір Унучак і Алесь Пашкевіч. Цёпла было сустрэта выступленне дачкі М. Мялешкі Людмілы Сакаловай, якая прыехала на гэтую ўрачыстасць з Пецярбурга.

Зладжаны хор галасоў выступоўцаў пацвердзіў, што пасеянае славутым папярэднікам зерне, нягледзячы на жорсткія ўмовы часу, упала не на камень, а лягло ва ўрадлівую глебу, узрасло важкім коласам і прынясе добры плён у будучыні.

**Яўген ЛЕЦКА.**

# ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТА






## МІМОЗА

Мінула зіма,
Мінавалі
Марозы,
Маністамі-кветкамі
Ўбрана
Мімоза.
Мімоза
Квітнее,
Мімоза
Дабрэе,
У садзе
Расце
І ў аранжарэі.

## НЯКЛЁН

Наклён —
Татарскі
Гэта
Клён,
Сухменю
Не баіцца ён.

Яму не страшна
Нават суша,
Ніколі
Нізашто
Не ссушыць.

Няклён,
Няклён —
Сапраўдны ж
Клён,
Гамоніць,
Шэпча з ветрам ён.

## О, ДРЭВА!

О, дрэва!
О, дрэва!
О, веліч і дзіва!
Прырода цябе
Нездарма
Нарадзіла...
Ты вечна,
Ты вечна,
Ад веку да веку
І радасць,
І ўцеху
Даеш чалавеку!

## ПІХТА

На лясной
Паляне
Піхта,
Бы ў тумане,
Ранняй
Ахінаецца
Смугой.
Пахне
Піхта хвояй,
Церпкаю такою,
Кветкамі мядовымі,
Тайгой.

## РАБІНА

Рдзее гронкамі
Рабіна,
Ружавее
Ранкам,
Днём,
Палымнее,
Чырванее
Па-над
Рэчкай
За сялом.

## САСНА

Сасна,
Сасонніца,
Сасонка,
Стаіш ты
Ў засені лясной,
І неба
Сіняе,
І сонца,
І зоры
Цешацца табой.

## ТАПОЛЯ

На прыгорку
Ў чыстым полі
Зеланеецца
Таполя.

Сонца,
Як засвеціць
Толькі, —
Лашчыць стан
Тапалі
Тонкі.

А лісты яе,
Галіны
Сеюць водар
Тапаліны.

## У ЛЕСЕ

У лесе звычным,
У вясновым,
У ліcцёвым,
У сасновым
Сяброўак многа
І сяброў —
Прылётных птушак
І звяроў.

У лесе,
У цянку дубоў
Улетку
Не злічыць грыбоў...
А ягады —
Касой касі,
Бяры дармова,
Не прасі!

## ФІКУС

Фікус ёсць
І пакаёвы,
Фікус ёсць лясны,
Паўднёвы...
А лісты —
І не паверыш —
Велізарнейшых
Памераў.




Ведаеш, чым адрозніваюцца казачныя птушкі ад звычайных? Думаеш тым, што яны ўмеюць гаварыць па-чалавечы? Не, галоўнае адрозненне ў тым, што казачныя птушкі могуць падарожнічаць у часе.

Дадо на гэты раз вырашыў адправіцца ў Англію XII стагоддзя, у славуты Шэрвудскі лес.

Ты, мусіць, ведаеш, што ў гэтым лесе ў той час было брацтва "вясёлых людзей". Так сябе называлі вольныя стралкі разумнага і дзёрзкага Робін Гуда.

Вядома, наш Дадо вельмі пасябраваў з Робінам. Аднойчы яны разам адправіліся на кірмаш у Нотынгем. І трэба ж так здарыцца, што салдаты нотынгемскага шэрыфа пазналі Робін Гуда, накінуліся на яго, звязалі і пасадзілі ў турму. А заадно прыхапілі і Дадо, які, зразумела, не мог кінуць сябра ў бядзе.

Трэба дапамагчы сябрам выбрацца на волю. Для гэтага вы павінны прайсці па гульневаму полю і пранікнуць у турму, а зрабіць гэта будзе не проста. Шэрыфу ўжо далажылі, што вы ідзяце на дапамогу Робіну і Дадо, і ён падрыхтаваў для вас нямала каварных сюрпрызаў.

Такім чынам, хто з вас першым дабярэцца да клеткі 53, той і стане пераможцам у нашай гульні.

Запасайцеся кубікам і фішкамі па колькасці ігракоў. Хадзіць трэба па чарзе на тую колькасць клетак, якая выпадзе на кубіку.

**Клетка 1.** Старт. Square 1. Start.

**Клетка 6.** Засада. Прапусці ход.

**Square 6.** An ambush. Miss the move.

**Клетка 11.** Пашанцавала. Ты знайшоў самы кароткі шлях у Нотынгем. Ідзі адразу на клетку 28.

**Square 11.** You are lucky! You've found the storkest way to Nottingham. 28 is waiting for you.

**Клетка 17.** Шэрыф загадаў зламаць мост праз раку. Прыйдзецца ісці бакавым шляхам. Зварочвай!

**Square 17.** Sheriff has ordered to destroy the bridge over the river. You must turn off the road.

**Клетка 21.** Ты трапіў у пастку. Стражнікі акружылі цябе з усіх бакоў. Добра, што на дапамогу прыйшоў Малютка Джон, сябра Робін Гуда. Але ход усё-такі прапусці.

Square
hemmed i
but you m
Клетка
Пакуль вя
чывай. Ц
Square
You need
your hors
Клетка
нельга, а
вым шлях
Square
soned wa
anosher w
Клетка
выслаў н
нак прац
Square
afraid of y
duel laste
Клетка
для цябе
перанёс

# Былі тры браты — Кій, Шчок і Харыў



аляне жылі асобнымі родамі, па сваіх мясцінах, і кожны ўладарыў самастойна.

І былі тры браты: аднаго звалі Кій, другога — Шчок, а трэцяга — Харыў. Яшчэ была ў іх сястра Лыбедзь. Кій жыў на гары, дзе цяпер Барычаў спуск (*дарога, што злучала кіеўскія вуліцы з Падолам, пасялішчам каля самага днапроўскага берага*), Шчок — на гары, што завецца Шчакавіцай, а Харыў — на трэцяй гары, названай ад яго ім Харавіцай.

Заклалі горад яны ў гонар старэйш брата і далі яму назву Кіеў. Вакол гор стаяў вялікі бор, дзе браты лавілі звяр Былі яны мудрыя і кемлівыя, называл палянамі, ад іх і па сённяшні дзень сядз у Кіеве паляне.

Недасведчаныя людзі кажуць, што служыў перавозчыкам, бо ў той час каля ева знаходзіўся перавоз з другога б Дняпра. Таму і казалі: "На перавоз на Кі

Каб Кій быў перавозчыкам, дык не хад бы ў Царград. Кій княжыў у сваім родзе, дарэмна цар, да якога хадзіў ён, урачы яго прымаў. Кій жа, вярнуўшыся ў Кіеў, і скончыў жыццё. І браты яго Шчок і Хар і сястра іхняя Лыбедзь тут памерлі.



*Святыя Кірыла і Мяфодзій — настаўнікі славянскія. Мініяцюра з "Радзівілаўскага летапісу".*

# АПОВЕСЦЬ М

## Мелі яны свае звы чаі, паданні і закон

Працяг. Пачатак у № 50 за 1998 год.



# ТАНКА: АД 4 ДА 14



Square 21. You have fallen into a trap. You are hemmed in on all sides. Well, Little John helps you, but you must miss the move.

Клетка 25. У твайго каня адвалілася падкова. Пакуль вясковы каваль прыбівае новую — адпачывай. Цэлы ход.

Square 25. Your horse has lost his horseshoe. You need a rest, and the rural blacksmith will shoe your horse.

Клетка 30. Калодзеж з атручанай вадой. Піць нельга, а хочацца. Бліжэйшы калодзеж на бакавым шляху — зварочвай!

Square 30. Attention, please! The well with poisoned water. You turn off the road again. Look for anosher well!

Клетка 33. Здаецца, шэрыф напалоханы. Ён выслаў насустрач Чорнага Рыцара. Ваш паядынак працягваўся цэлыя два ходы.

Square 33. It seems that the formidable sheriff is afraid of you. Black Knight is waiting for you. Your duel lasted two moves.

Клетка 35. Удача! Сябры Робіна падрыхтавалі для цябе самага хуткага каня, які імгненна перанёс цябе на клетку 42.

Square 35. Good luck! Robin's friends have prepared the fastest horse for you. The horse jumped over 7 squares.

Клетка 40. А вось удача тут ад цябе адвярнулася: пачалася страшная бура. Трэба перачакаць — прапусці ход.

Square 40. You are out of luck. A terrible storm is beginning. It's necessary to wait for some time under cover.

Клетка 46. Шэрыф, пераапрануты бадзягай, пачаставаў цябе соннымі яблыкамі. Ты праспаў цэлы ход.

Square 46. Sheriff has dressed as a tramp. He has treated you to sleeping apples. You slept for a year (= a move).

Клетка 49. Апошняе выпрабаванне. Зноў Чорны Рыцар, а з ім дзесяткі два стражнікаў. Вось гэта бой! Ты перамог, але ход страціў...

Square 49. The last test. The Black Knight and his guards have appeared again. Such a good battle! You defeated them, but one move is lost.

Square 53. Finish! That's a good chap!

**Гэты лабірынт патрабуе, каб ты, юны чытач, не толькі разгадаў блытаніну, але і ўпісаў па-беларуску замест кропак назвы паказаных на малюнку прадметаў і істот. А потым вазьмі нажніцы, выраж гэты малюнак-загадку і хуценька пашлі па пошце да нас у рэдакцыю. Не забудзь пазначыць сваё прозвішча і ўзрост. Мы ж назавем у газеце найбольш здагадлівых. Дамовіліся!**

**А можа цябе ў мінулым выпуску "Чытанкі" ("Голас Радзімы" № 50) зацікавіла радаслоўнае дрэва Дадо і ты намаляваў сваё! Нам таксама цікава даведацца пра твой радавод. Пішы. Дадо чакае з нецярпеннем.**



# ...Ь МІНУЛЫХ ГАДОЎ

...д яго імені

... старэйшага
...Вакол горада
...авілі звяроў.
... называліся
...зень сядзяць

...ць, што Кій
... час каля Кі-
...ругога боку
...воз на Кіеў".
...ык не хадзіў
...ім родзе, не-
...ён, урачыста
...ся ў Кіеў, тут
...чок і Харыў,
...ерлі.

## ...Е ЗВЫ-
## ...ЗАКОНЫ



асля смерці братоў пачаў іх род княжыць у палян. А ў драўлян, дрыгавічоў і славян у Ноўгарадзе сваё было княжанне. Ад іх паходзяць крывічы, што сядзяць у вярхоўях, Волгі, Дзвіны і Дняпра.

На Белавозеры сядзіць весь, на Растоўскім возеры — меры і на Клешчыне-возеры — меры. А па рацэ Ака, дзе яна ўпадае ў Волгу, жывуць мурамы, у якіх свая мова. І ў чарамісаў, і ў мардвы свая мова.

Вось толькі хто размаўляе па-славянску на Русі: паляне, драўляне, ноўгарадцы, дрыгавічы, бужане, што селі па Бугу і сталі пазней называцца валынянамі.

У тыя ж часы жылі обры. Яны ваявалі супраць славян, пакарылі дулебаў. І чынілі гвалт над жанчынамі дулебскімі. Калі обрын кудысьці ехаў, дык не запрагаў каня ці вала, а запрагаў тры, чатыры ці нават пяць жанчын. Вось як пакутавалі дулебы. Былі обры целам вялікія і гордыя розумам. І пакараў іх Бог: усе памерлі яны, ніводнага обрына не засталося. Толькі прыказка ёсць на Русі: "Загінулі, як обры".

Радзімічы і вяцічы паходзяць ад ляхаў. Былі два браты ў ляхаў — Радзім і Вятка. Прыйшлі і селі: Радзім — на Сажы, ад яго назваліся радзімічы, а Вятка з родам сваім спыніўся каля Акі — ад яго назваліся вяцічы.

І жылі паміж сабою ў міры паляне, драўляне, радзімічы, вяцічы і харваты. Мелі яны свае звычаі, паданні і законы бацькоў сваіх.

## Іх зброя вострая з двух бакоў



асля смерці братоў Кія, Шчока і Харыва пачалі крыўдзіць палян драўляне, а таксама іншыя навакольныя людзі. Потым прыйшлі на лясныя горы хазары *(хазары жылі ў стэпе паміж Волгай і Донам, паміж Каспійскім і Азоўскім морамі, галоўны горад іх быў Саркел)* і кажуць:

"Плаціце нам даніну".

Параіліся паляне і далі ім ад кожнага дыма *(ад кожнай хаты)* па мячу. Вярнуліся хазары, расказваюць князю свайму і старэйшым:

"Новую даніну мы знайшлі".

Пытаюцца ў іх:

"Адкуль даніна?"

"З гораў лясных, што над Днепромракою".

Пытаюцца далей князь і старэйшыны:

"А што вам далі?"

Паказалі ім прынесеныя мячы.

Сказалі тады мудрацы хазарскія:

"Не добры знак гэта, княжа! Мы ўзялі даніну шаблямі з аднаго боку вострымі, а іх зброя, што мячамі завецца, вострая з двух бакоў. Будуць паляне браць даніну і з нас, і з іншых краін".

Так і збылося: спачатку яны ўладарылі, а цяпер над імі ўладараць. Сядзяць хазары пад князямі рускімі і па сённяшні дзень.

## Адсюль пачнём і будзем ставіць гады

*У год 6360 (852).*



ачаў царстваваць Міхаіл *(візантыйскі імператар, у сапраўднасці ўладарыў з 842 года)*, і стала зямля называцца Рускаю. А гэта вядома таму, што пры тым цару, як пішацца ў летапісанні грэцкім, прыходзіла русь на Царград.

Вось адсюль пачнём і будзем ставіць гады.

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# РАМАН ПРАЦЯГЛАСЦЮ Ў ПАЛОВУ ВЕКУ

## ГЛАВА II.

## ДЗЯКУЙ ЗА ЛЮБОЎ



*Валюша за 3 дні да пачатку вайны (Кіеў, 1941 г.).*

Вайна напаткала Валянціну Сачок у Кіеве, куды яна паехала пагасцяваць да стрыечнай сястры. І толькі праз год яна здолела вярнуцца дамоў.

Валянціна Ігнатаўна ўспамінае:

— Прыехала ўначы, ні адзін ліхтар не гарэў — цемра неймаверная. Да самай раніцы прасядзела на вакзале. Пытаюся ў насільшчыка: як Мінск? А ён у адказ: Мінска няма, ён фактычна згарэў. Высветліла праз яго, што менш дасталася раёну Чэрвеньскага тракта, якраз дзе мая цётка жыла. Туды і накіравалася.

Світанак гэтага дня быў жудасны: замест свайго горада я ўбачыла адны руіны. Плачучы ўголас, пайшла па сцежцы, што людзі пратапталі сярод руін. Калі дайшла да першых ацалелых дамоў, убачыла людзей, якія адчынялі аканіцы, зноў слёзы паліліся ручаём... На шчасце, цётка была жывая. Тут жа была і мая маці, бо наш дом згарэў... А на другі дзень трэба было ўжо наведацца на біржу працы, а то можна было трапіць на прымусовыя работы ў Германію.

У Германіі яна ўсё ж апынулася. У лагеры "Остэн арбайтэн". За некалькі месяцаў да вызвалення Мінска.

...Валя працавала кладаўшчыцай на ветэрынарным складзе. Нейкую частку лекаў спісвалі і праз фельчара адпраўлялі партызанам. Але аднойчы нагрынула рэвізія, якраз падчас яе хваробы. Нястача... Мужа арыштавалі на рабоце (ён яе ўладкаваў на гэты склад), а яе — дома.

— Вызвалялі нас амерыканцы, — успамінае яна. — Недзе напярэдадні Першага мая, яшчэ вайна не скончылася. Я на той час ужо была ў Мюнхене. Яго павінны былі ўзарваць, але больш цвярозыя нямецкія афіцэры наладзілі путч і здалі горад без бою. Потым на Балатоне быў другі лагер, ужо наш, дзе СМЕРШ "чыстку" праводзіў.

Яна не выкінула, як некаторыя, аўсвайс "Остэн арбайтэн". І гэта, як ні дзіўна, адбілася станоўча на далейшым лёсе. Таксама ўвосень, але ўжо 45-га года, Валянціна вярнулася дадому. І тут ёй крыху пашчасціла, бо першым, хто вяртаўся з нямецкай няволі, пражываць у Мінску было забаронена. Гавораць, умяшаўся Міжнародны Чырвоны Крыж і забіў трывогу за праследаванне ў дзяржаве, якая перамагла фашызм, пакутнікаў ад таго ж самага фашызму.

А потым яна паехала за ссыльным мужам у Комі АССР... І зноў вярнулася ў Мінск, ужо адна.

Не, Валянціна Ігнатаўна не стала потым якойсьці славутасцю, зорак з неба не хапала, пасад адказных не займала — дваццаць гадоў адпрацавала ў Белгіпрахарчпраме лабаранткай і адтуль на пенсію пайшла.

І ўсё ж яна незвычайны чалавек. Такую адданую паклонніцу тэатра і кіно толькі пашукаць! Вiдаць, многія акцёры, да якіх яна звярталася па аўтографы, нейкім чынам адчувалі ўсё гэта. І здзіўляліся, якую работу яна выконвала дзеля іх — вялізныя альбомы з падборкамі фотаздымкаў — кадраў з фільмаў з іх удзелам, матэрыяламі прэсы. Іх, гэтыя альбомы, адной рукой не ўтрымаць... Відаць, у тым, што акцёры ўступаюць у дыялог з Валянцінай Ігнатаўнай, ёсць не толькі пачуццё ўдзячнасці за ўвагу да іх працы. Яны, людзі таленавітыя, адчуваюць у ёй нейкі асобы дар. Так, бо інакш не назавеш уменне напаўняць сваё жыццё сэнсам, інтарэсам.



*Валянціна Ігнатаўна са Стафаніяй СТАНЮТАЙ.*

Яна зусім не падобная на пенсіянерку з вялікім стажам.

На сваю малую пенсію Валянціна Ігнатаўна ўмудралася да нядаўняга часу не толькі ездзіць на айчынныя кінафестывалі, папаўняць сваю калекцыю, але і бываць у Маскве, Ленінградзе і Кіеве на спектаклях сваіх любімых акцёраў (па запрашэнню і без запрашэння). Быў яшчэ адзін моцны стымул пры гэтым — атрымаць аўтограф. І тут ужо бабулька нашая адкідвала ўсялякую сарамлівасць, іншы раз паводзячы сябе ну зусім як фанатка. У чым і прызнавалася потым:



*Аўтограф Аляксея Баталава.*

— Тры дні я чакала Смактуноўскага каля МХАТа, каб узяць аўтограф. І ніяк мне не шанцавала пры гэтым. Нават шкада стала сябе: жанчына ў гадах, а бегаю тут... Раптам машына пад'язджае, а ў ёй Смактуноўскі. Я разумею, што ён прыехаў на спектакль, што яму трэба грыміравацца... ! тааму хваляюся. А ён гаворыць: "Ідзёмце!" І, галоўнае, не спяшаецца, прагледзеў альбом, прысвечаны ягонай творчасці, і кажа: "У мяне нават такіх фатаграфій няма. Як прыемна, што ёсць такія паклоннікі". Я адказваю: "Дзякуй вам!" А ён: "Што вы! Гэта вам — дзякуй!" Пацалаваў маю руку. А мне так захацелася яго абняць, на што я, вядома, не рашылася. З такім цёплым пачуццём адтуль і пайшла...

Між іншым, хтосьці са славутасцей і сам у гасцях у Валянціны Ігнатаўны пабываў. Хлебасольнай гаспадыняй яна застаецца дагэтуль, нягледзячы на сваю беднасць матэрыяльную. І не дзіўна, што ў адказ пісаліся вось такія словы:

"Мы Вас очень любим всей семьей. А я особенно дорожу нашей Дружбой. Правда, мне не удалось еще дать Вам почувствовать, как Вы мне дороги. До встречи. Здоровья! Радости! Ваша Ада Роговцева".

Гэтая цудоўная кіеўская актрыса гасцявала ў Валянціны Ігнатаўны, калі тэатр імя Франка быў на гастролях у Мінску. Валянціна Ігнатаўна ж, калі бывала ў сваякоў у Кіеве, таксама наведвалася ў госці да актрысы.

Доўгія гады сяброўства звязваюць Валянціну Ігнатаўну з славутай актрысай і вельмі сціплым чалавекам Стафаніяй Станютай. А вось якое прызнанне замест аўтографа напісаў вядомы маскоўскі акцёр Аляксандр Шырвінт: "Ни с одной женщиной не было такого длительного и чистого романа, как с Вами! Спасибо за долгую память".

Не, відаць, я не зусім мела рацыю, калі вышэй напісала, што Валянціна Ігнатаўна не стала славутасцю. Стала, няхай сабе і ў вузкім коле. Але якім! Не, зусім не выпадкова ў Смаленску на кінафестывалі "Садружнасць-91" яе запрасілі на сцэну, і старшыня гільдыі кінаакцёраў Яўген Жарыкаў уручыў ёй падарунак. На кінафестывалі "Лістапад-97", што праходзіў у Мінску, Валянціна Ігнатаўна была старшынёй журы кінагледачоў.



*Адзін з рэдкіх фотаздымкаў славутага рускага акцёра Мікалая Чаркасава (Кіеў, 1952 г.).*




*Аўтограф Ады Рогаўцавай.*

Фотаздымкі з архіва В. І.

**Маргарыта СТАРЫХ**

## ЭКСКУРС У МІНУЛАЕ

**• 1 сакавіка**

1965 год — на першым у БССР Рэчыцкім радовішчы пачалася прамысловая распрацоўка нафты.

1977 год — у Мінску заснавана Рэспубліканская навукова-тэхнічная бібліятэка.

**• 2 сакавіка**

1957 год — на Мінскім аўтазаводзе завершана зборка 40-тоннага аўтамабіля-самазвала "МАЗ-530".

**• 3 сакавіка**

1918 год — у Брэст-Літоўску паміж Савецкай Расіяй і краінамі Чацвёртага саюза (Германія, Аўстра-Венгрыя, Балгарыя і Турцыя) быў падпісаны мірны дагавор, які дазволіў Расіі выйсці з першай сусветнай вайны і даў мірную перадышку. Анулiраваны савецкім урадам 10 лістапада 1918 года ў сувязі з пачаткам Лістападаўскай рэвалюцыі ў Германіі.

**• 9 сакавіка**

1883 год — нарадзіўся Францішак Аляхновіч. Буйны тэатральны дзеяч, артыст, рэжысёр, пісьменнік. Рэжысёр Першага беларускага таварыства драмы і камедыі Беларускага савецкага тэатра. Загінуў у 1944 годзе.

**• 10 сакавіка**

1939 год — урачыстае адкрыццё будынка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Тады ж адбылася прэм'ера першай беларускай оперы "Міхась Падгорны" Я. Цікоцкага.

1946 год — нарадзіўся Уладзімір Гасцюхін. Кінаакцёр, народны артыст Беларусі (1966). З 1981 года працуе ў Тэатры-студыі кінаакцёра. Зняўся ў фільмах: "Узыходжанне", "Бераг", "Час абраў нас", "Вазьму твой боль", "Наш бранепоезд".

**• 11 сакавіка**

1887 год — нарадзіўся Алесь Гарун (Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч). Беларускі паэт. Выкрываў сацыяльную няроўнасць і прыгнечанне ў буржуазным грамадстве. Памёр у 1920 годзе.

1903 год — нарадзіўся Тодар Кляшторны. Беларускі паэт. Аўтар паэтычных зборнікаў, твораў для дзяцей. Загінуў у 1937 годзе.

**• 12 сакавіка**

1918 год — нарадзіўся Эдуард Валасевіч. Беларускі паэт-байкапісец. Выдаў шэраг зборнікаў баек, якія адрозніваюцца актуальнасцю тэматыкі, камізмам сітуацый, жывым народным гумарам.

**• 14 сакавіка**

1931 год — нарадзіўся Павел Місько. Беларускі пісьменнік. Асноўныя тэмы творчасці — падзеі Айчыннай вайны, жыццё сучаснай вёскі. Аўтар кніг для дзяцей, сатырычных зборнікаў.

1969 год — адкрыўся Гомельскі дзяржаўны універсітэт.

**• 15 сакавіка**

1868 год — нарадзіўся Яўген Ляцкі. Гісторык рускай літаратуры, даследчык беларускага фальклору і этнаграфіі. Памёр у 1942 годзе.

**• 17 сакавіка**

1991 год — у СССР адбыўся рэферэндум аб захаванні СССР як Федэрацыі раўнапраўных рэспублік.

**• 19 сакавіка**

1931 год — у Акадэміі навук БССР заснаваны Інстытут філасофіі і гісторыі.

1932 год — адбылося ўзброенае выступленне сялян вёскі Асташына Навагрудскага павета супраць падатковага прыгнёту буржуазнай Польшчы.

**• 20 сакавіка**

985 год — упершыню ў летапісах упамінаецца Заслаўе.

1972 год — у Мінску адкрылася Генеральнае консульства ПНР.

**• 21 сакавіка**

1840 год — нарадзіўся Францішак Багушэвіч. Беларускі паэт, празаік, публіцыст, заснавальнік крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры. Вытокі яго творчасці цесна звязаны з грамадскім жыццём Беларусі. Памёр у 1900 годзе.

(Заканчэнне на 8-й стар.).



МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

# ТАРАС ШАЎЧЭНКА ПА-БЕЛАРУСКУ

Час ад часу, на працягу многіх гадоў, перакладаю на родную мову асобныя творы Тараса Шаўчэнкі. Гэтая праца мне цешыць сэрца, бо ў яго паэзіі ёсць краса і сіла, што, дарэчы, першы з беларусаў заўважыў некалі Максім Багдановіч.

Зручная тая акалічнасць, што ўкраінская мова, мова адной з суседніх краін, мне зразумелая, блізкая. Адна радасць чытаць творцу ў арыгінале і перакладаць без падрадкоўнікаў!

Тараса Шаўчэнку, генія ўкраінскай літаратуры, любяць і шануюць не толькі на Украіне. Яго пачуцці і думкі, асветленыя глыбокай чалавечнасцю, дарагія і нам, беларусам, грамадзянам незалежнай краіны, дзе жыве і працуе вялікая і дзейная ўкраінская дыяспара. На Беларусі ў вялікай пашане імя слыннага Кабзара, яго духоўная спадчына. Сёлета, 9 сакавіка, шырока адзначаліся 185-я ўгодкі Тараса Шаўчэнкі. У сталіцы ў першай дэкадзе сакавіка і ў пачатку другой дэкады прайшло многа цікавых імпрэз. Вось некаторыя з іх. У Нацыянальнай бібліятэцы адбыліся Шаўчэнкаўскія чытанні, а ў Доме дружбы і ў Белдзяржуніверсітэце — вечарыны, прысвечаныя жыццю і творчасці славутага майстра мастацкага слова і мастака. Гучала багата вершаў Т. Шаўчэнкі, арыгінальных і перакладных, а таксама песень на яго словы.

Мне пашанцавала вось ужо шосты год быць сябрам рады таварыства "Беларусь — Украіна". На вечарах у Доме дружбы і па радыё дэкламуюцца творы знакамітых украінскіх паэтаў у маім перакладзе. Друкуюцца яны і ў перыядычных выданнях. Гэтым разам я рады пазнаёміць чытачоў "Голасу Радзімы" з некаторымі маімі новымі перакладамі неўміручых вершаў вялікага Кабзара.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

* * *

Упадае вада ў мора,
Ды не выцякае;
Ўсё казак шукае долю,
А доля ўцякае.
Пайшоў казак у свет Божы;
Хваляй грае мора,
Грае сэрца казакова,
А душа гаворыць:
— *Не спытаўшыся, куды ты?*
На каго пакінуў
Бацьку, матаньку старую,
Юную дзяўчыну?
Ў чужыне́ не тыя людзі,
І табе паплакаць
Там, казача, з кім не будзе,
А ні пабалакаць.
На тым беразе казак наш,
Грае хваляй мора.
Думаў, доля напаткае —
Напаткала гора.
Жураўлі лятуць у край свой.
Казак плача горна:
Шляху бітага не знойдзе —
Ўжо зарос ён цёрнам.

*1838.*
С.-Пецярбург.

## ЗАПАВЕТ

Як памру я, пахавайце
Не ў зямлі панылай —
Сярод стэпу шырокага
На Ўкраіне мілай.
Каб раздольныя разлогі,
І Дняпро, і кручы
Былі побач, было чутна,
Як раве равучы.
Панясе ён з Украіны
У сіняе мора
Кроў варожую... — тады я
І даліны й горы —
Ўсё пакіну і памкнуся
Да самога Бога,
Каб маліцца... а да тога
Я не знаю Бога.
Пахавайце ды ўставайце,
Кайданы парвіце
І варожай злою кроўю
Волю акрапіце.
І мяне ў сям'і вялікай,
Сям'і вольнай, новай,
Памянуць вы не забудзьце
Нязлым ціхім словам.

*25 снежня 1845.*
Пераяслаў.

* * *

Не завідуй багатаму:
Багаты не знае
Ні прыязні, ні любові —
Гэта ўсё наймае.
Не завідуй магутнаму,
Бо той прымушае.
Не завідуй і слаўнаму:
Слаўны добра знае:
Не яго папраўдзе любяць,
А цяжкую славу,
Што ён цяжкімі слязамі
Выліў на забаву.
А сыдуцца маладыя —
Дык люба ды ціха,
Бы ў раю, — але прыгледзься:
Варушыцца ліха.
Не завідуй жа нікому,
Паглядзі навокал;
Няма раю на зямлі ўсёй,
Дый няма высока.

*1845.*
Міргарад.

## МАЛІТВА

Хто сее зло, ты супыні,
Ім путы страшныя не куй,
Скляпы няволі не муруй.

Рукам, што ў пошуках дабра,
І пакажы, і памажы,
Святую сілу ты ім дай.

А чыстых сэрцам? Каля іх
Пастаў анёлаў ты сваіх
І чысціню іх захавай.

А ўсім нам разам на зямлі
Ствары паразумення рай,
Любоў да брата нам пашлі.

*27 трайня 1860.*
С. -Пецярбург.

* * *

Агні гараць, музыка грае,
Музыка плача, завывае:
Алмазам добрым, дарагім
Іскрацца вочы маладыя,
Надзея, шчасце ў іх жывыя,
Так люба, весела тут ім,
Вачам нягрэшным, маладым.
Тут смеху, радасці багата;
І ўсе танцуюць. Толькі я
Гляджу, маўчу, нібы закляты,
І нішкам плачу, плачу я.
Чаго ж я плачу? Мабыць,
шкода,
Што без прыгоды, бы нягода,
Мінула маладосць мая.

*1850.*
Арэнбург.

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСЫ Ў РАСІІ

## (РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ)

Маскоўская дзяржава, якая з канца XV стагоддзя пачала змаганне за "единение" пад сваёй уладай усходнеславянскіх зямель (Старажытнай Русі), захвочвала сепаратысцкія памкненні праваслаўнай знаці ВКЛ. У 80-я—90-я гады XV стагоддзя пераходы праваслаўных феадалаў на бок Масквы сталі частымі. Пасля выкрыцця ў 1481 годзе змовы супраць Казіміра IV, на чале якой стаялі слуцкі князь М. Алелькавіч, Ф. Бельскі і адзін з князёў Гальшанскіх, яе ўдзельнікі і прыхільнікі перасяліліся ў Маскоўскую дзяржаву (Навасельскія, Адоеўскія і інш.). З канца XV стагоддзя перамяшчэнні на ўсход, найперш прымусовыя, былі выкліканы пераходам ад памежных канфліктаў да адкрытай барацьбы за сферы ўплыву на землях Старажытнай Русі паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ (войны 1492—1494, 1500—1503, 1507—1508, 1512—1522, 1534—1537 гадоў). У час першай з гэтых войнаў з памежных раёнаў ВКЛ перабеглі "на службу" ў Маскву князі С. Варатынскі, М. Мязецкі, А. і В. Бялеўскія, А. Вяземскі са сваімі ўдзеламі. Паводле заключанага ў 1494 годзе мірнага дагавора ВКЛ прызнала ўсе "ад'езды" і страціла Вяземскае княства і землі ў басейне Верхняй Акі. Пераходы памежных князёў разам з "дварамі", баярамі, слугамі пад уладу Масквы справакавалі ваенны канфлікт 1500—1503 гадоў. На службу да Івана III тады перабеглі князі С. Бельскі, В. Шамячыч, С. і І. Мажайскія і іншыя вярхоўскія і чарнігава-северскія князі. ВКЛ не дамаглося вяртання "здрадцаў", а да Маскоўскай дзяржавы адышлі 29 гарадоў і 70 валасцей, у тым ліку Бранск, Чарнігаў, Гомель і іншыя. У 1508 годзе, пасля задушэння мяцяжу супраць вялікага князя ВКЛ Жыгімонта І Старога, у Маскву выехалі князі Міхаіл, Іван і Васілій Глінскія і іх блізкія паплечнікі. Вялікі князь маскоўскі Васіль III заключыў у красавіку 1508 года з мяцежнікамі пагадненне аб сумесных ваенных дзеяннях і выкарыстаў іх для заваявання беларускіх зямель і заключэння выгаднага яму міру. Многія з беглай знаці набылі ў Маскоўскім княстве значны ўплыў, знаходзіліся ў блізкім сваяцтве з вялікакняжацкімі, а потым і царскімі родамі (Патрыкеевы, Бельскія, Глінскія і інш.). Глінская стала жонкай Васілія III. Пасля смерці мужа яна была рэгентам Рускай дзяржавы пры сваім малалетнім сыне — вялікім князі Іване IV. Набліжанымі да яго сталі сыны В. Глінскага. Адзін з іх (Юрый) быў у ліку ініцыятараў абвяшчэння Івана IV першым расійскім царом.

Акрамя праваслаўнай знаці ВКЛ, на ўсход беглі і сяляне, гараджане, выводзіліся захопленыя ў ходзе ваенных дзеянняў палонныя, якія затым прымалі ўдзел у заваяванні і асваенні новых зямель. Так, у сібірскім паходзе Ермака (1582) удзельнічалі каля 300 выхадцаў з ВКЛ, сярод якіх былі і палонныя з беларускіх зямель. Удзельнічалі яны і ў разгроме хана Кучума ў 1598 годзе. Сярод першых пасяленцаў Цюмені, Табольска, Тары ў канцы XVI стагоддзя было нямала жыхароў ВКЛ, у тым ліку з беларускіх зямель.

Праз выхадцаў з Беларусі ў Расію пашыраліся здабыткі еўрапейскай асветы і культуры XVI стагоддзя. А некаторыя перасяленцы пакінулі прыкметны след у развіцці рускай грамадскай думкі і асветы. Добра адукаваны беларускі шляхціц І. Перасветаў, які з 1539 года жыў у Маскве, стаў адным з ідэйных натхняльнікаў рэформ Івана IV. Далучэнню Маскоўскай дзяржавы да кнігадрукавання спрыялі І. Фёдараў (Федаровіч), род якога паходзіў з Беларусі, і беларус П. Мсціславец: на прывезеным з ВКЛ друкарскім абсталяванні яны выпусцілі першыя дакладна датаваныя ў Маскоўскай дзяржаве кнігі "Апостал" (1564) і два выданні "Часоўніка", па якіх навучалі грамаце.

**Беларусы ў Расіі XVII—XVIII стагоддзяў.** Значны рост перасяленняў у Расію ў канцы XVI—XVII стагоддзяў быў выкліканы ўзмацненнем прыгонніцкай эксплуатацыі сялян у ВКЛ, нацыянальна-рэлігійным прыгнётам беларускага насельніцтва ў канфедэратыўнай дзяржаве — Рэчы Паспалітай. Маскоўская дзяржава заахвочвала іміграцыю беларусаў як "исконно русских" для асваення новых заваяваных на ўсходзе рэгіёнаў, давала прытулак беглым (а многім прыгонным і волю), прымала іх на службу (як і палонных, якія прысягнулі на вернасць), аказвала нават пэўную матэрыяльную падтрымку. З улікам значнай колькасці перасяленцаў царкоўны сабор 1620 года прыняў спецыяльную пастанову аб перахрышчванні беларусаў, "вяртанні іх ва ўлонне сапраўднай веры".

Шляхта, рамеснікі, гандляры, сяляне масава выводзіліся з беларускіх зямель у глыбінныя раёны Расіі ў ходзе яе войнаў з Рэччу Паспалітай (1632—1634, 1654—1667). Так, летам 1633 года ў Томску з'явілася вялікая група "литовских людей", у тым ліку выхадцаў з Мсціслаўскага, Крычаўскага, Аршанскага, Магілёўскага і іншых паветаў. У час вайны 1654—1667 гадоў жыхары беларускіх зямель прымусова перасяляліся пад Маскву, у іншыя цэнтральныя раёны, а найбольш — у Паволжа, Урал і Сібір. У баярына М. Чаркаскага з Арзамаскага павета ў 70-я гады XVII стагоддзя налічвалася больш за 800 сялян з Беларусі. Масавы характар набыў захоп беларусаў у маскоўскі палон рускімі служылымі людзьмі. На расійскіх абсягах паявіліся ўжо і асобныя паселішчы. Па царскаму ўказу 1672 года ў Маскве з беларусаў была заснавана Мяшчанская (Новамяшчанская) слабада, якая падпарадкоўвалася пасольскаму прыказу. Па звестках гісторыка Р. Лешчанкі, у 70-я гады XVII стагоддзя ўтварыліся беларускія слабоды ў Верхатур'і. У XVIII стагоддзі працягвалася фарміраванне ў Сібіры воінскіх падраздзяленняў з беларусаў-ваеннапалонных. Выхадцы з ВКЛ у першай палове XVIII стагоддзя заснавалі каля 20 вёсак з 200 вядомых на той час у Томскім павеце.

Прыкметная прысутнасць беларускага насельніцтва ў Расіі абумовіла значны ўплыў яго на развіццё некаторых галін яе матэрыяльнай і духоўнай культуры. Перасяленцы садзейнічалі сельскагаспадарчаму асваенню Паволжа і Сібіры, а "служивая литва" — замацаванню на новых заваяваных Расіяй тэрыторыях. Некаторыя перасяленцы займалі высокія дзяржаўныя пасады, сталі военачальнікамі, заснавальнікамі купецкіх родаў. Нацыянальна-рэлігійны ўціск (наступленне каталіцызму) абумовілі арыентацыю на Маскву ў першай палове XVII стагоддзя вядомых беларускіх пісьменнікаў, адукаваных праваслаўных святароў, манахаў-кніжнікаў, якія звязалі свой лёс з Расіяй. Значны ўплыў на развіццё рускай культуры, асветніцтва, кнігадрукавання аказалі Сімяон Полацкі, паэты А. Белабоцкі і Ф. Касьянаў-Газвінскі, вучоны і літаратар Е. Славінецкі, куцеінская літаратурная школа на чале з ігуменам І. Труцэвічам. Клопатамі Сімяона Полацкага ў Маскве з'явіліся новыя для Расіі асветніцкія ўстановы: свецкая Верхняя друкарня, прыватны кнігазбор і славяна-грэка-лацінская акадэмія. Важным асяродкам асветы стала вывезеная па загаду патрыярха Нікана восенню 1654 года ў Іверскі манастыр (пад Ноўгарадам) друкарня куцеінскага Богаяўленскага манастыра пад Оршай (разам з майстрамі і вялікай колькасцю кніг).

Працяг.
Пачатак у № 9.



Мазурскае паазер'е — адзін з найпрыгажэйшых рэгіёнаў Польшчы. Сама прырода заахвочвае тут да чысціні думак і духоўнай дасканаласці. Можа і таму на гэтай зямлі ў вёсцы Войнава асталяваўся невялікі праваслаўны жаночы манастыр. Больш ста шасцідзесяці гадоў існуе гэтая абіцель і збірае пад свой дах тых, хто прысвяціў сябе служэнню Госпаду. Жывуць манахіні вельмі сціпла, працуюць на манастырскай зямлі, забяспечваючы сябе ўсім неабходным. Дапамагаюць словам і справай хворым і нямоглым, а вольны ад спраў час праводзяць у малітвах. У нядзелю і святочныя дні разліваецца над манастыром звон, збіраючы на святую літургію жыхароў Войнава і навакольных вёсак.

*На здымку:* званы клічуць на малітву.

ВЫСТАВЫ

# БАЛАДА-СПОВЕДЗЬ НІНЕЛЬ ШЧАСНАЙ



*Нінель ШЧАСНАЯ прымае віншаванні.*

***У Нацыянальным мастацкім музеі адбылася персанальная выстава вядомага беларускага мастака Нінель ШЧАСНАЙ, прысвечаная 50-годдзю творчай дзейнасці.***



*"Алаіза Пашкевіч (Цётка)".*

САРАКАВАЯ персанальная выстава... Творчай актыўнасці, шматграннасці дзейнасці гэтай няўрымслівай жанчыны можна толькі па-добраму пазайздросціць. Калісьці мастачка лічыла неабходным стварыць асобы мабільны фонд сучаснага мастацтва, з якога можна было б фарміраваць перасоўныя выставы для невялікіх гарадоў. А нядаўна яна звярнулася ў Міністэрства культуры з прапановай стварыць музей партрэта беларускіх мастакоў. Першым крокам да яго стане выстава, якая ў хуткім часе мае быць у мастацкім музеі. Своеасаблівым "днём адкрытых дзвярэй" сталі "серады" ў майстэрні Н. Шчаснай, якія не першы год вабяць сюды самых розных людзей — яе калег, паклоннікаў і проста тых, хто чуў, што тут заўсёды цікава праходзяць чаяпіцці.

Адкрытасць, шчырасць, жаноцкасць — характэрныя і для творчай манеры Нінель Шчаснай. Мастачка не баіцца быць у чымсьці наіўнай, спалучаць, на першы погляд, неспалучаемае, быць не так зразуметай... Яна такая — якая ёсць. І ў лепшых сваіх работах, і ў тых, што выклікаюць непрыняцце ці лёгкую ўсмешку калег — маўляў, "рукадзелле"... Усё гэта ёсць праявы яе цэльнасці, гарманічнасці і адметнасці.

Мастачка лёгка пераходзіць ад графікі да жывапісу, вітража ці малой пластыкі ў шкле. Нехта лічыць, што найлепей яна выяўляе сябе ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Між іншым, да куточка з "шклом" на адкрыцці выставы цяжка было прабіцца праз натоўп цікаўных. А нехта з замілаваннем углядаўся ў жывапісныя работы "Снег квітнеючага сада", "Півоні", "Я п'ю кітайскі чай" і пейзажы.

Дарэчы, менавіта іх настрой адчуваецца ў тым музычным партрэце Нінель Шчаснай, які вядомы беларускі кампазітар Рыгор Сурус падараваў мастачцы на адкрыцці выставы.



*Пейзаж.*

Неяк у адным са сваіх інтэрв'ю яна сказала: "Мне здаецца, што ў нашы дні настаў час узаемапранікнення не толькі розных жанраў, але і відаў мастацтва. Аднойчы на канцэрце ў філармоніі я ўбачыла дзяўчыну, якая слухала музыку Адраджэння, гартаючы замест партытуры альбом рэпрадукцый вялікіх мастакоў той эпохі. Вось аб такім сінтэзе я мару. Не аб штучным аб'яднанні розных мастацтваў, а аб арганічнай патрэбе гледача, слухача, чытача ў паглыбленым прачытанні твора мастацтва. Адзін са шляхоў вырашэння гэтай праблемы я бачу ў аб'яднанні музыкі з выяўленчым мастацтвам". Потым была персанальная выстава Нінель Шчаснай у Богаяўленскім саборы (пасля рэстаўрацыі тут дзейнічае выставачная зала) старажытнага Полацка, яе роднага горада. Тут усё было так, як задумала мастачка.

Дарэчы, Нінель Шчасная ніколі не забывала, адкуль яна родам, свае карані. І адзін з аўтапартрэтаў яе — своеасаблівая спроба асэнсаваць, адчуць сябе ў часе даўно мінулым, старажытным.

Былі і іншыя выставы ў родным Полацку, і некаторыя работы Нінель Шчаснай засталіся ў пастаяннай экспазіцыі Полацкай карціннай галерэі.

Зусім не выпадкова другі свой аўтапартрэт на цяперашняй выставе мастачка змясціла побач з палатном "Думай пра Чэхава". Бо ён таксама яе спадчына, атрыманая ад бацькоў-настаўнікаў, яе свет і повязь з людзьмі. Самім бацькам прысвечана работа "Іван ды Мар'я. Залатое вяселле". Але ёсць і такая — "Пастаменты. Пастка часу" — як лёгка людзі ўзводзяць сваіх ілжэкуміраў і таксама лёгка з імі расстаюцца. І адчуванне, быццам хмарка набегла на той агромністы вітраж з вясёлкавых праменьчыкаў, што складаюць усе сабраныя разам творы мастачкі. Але вось хмарка засталася ззаду, а "Лілея-жанчына" вяртае нас у свет спрадвечных ісцін і гармоніі Сусвету.

**Марта КОСЦІЧ.**



*"Пясочны гадзіннік".*



*"Толькі яго нявеста".*

*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.*

ЭКСКУРС У МІНУЛАЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

1935 год — нарадзіўся Філарэт (Вахрамееў Кірыла Варфаламеевіч), Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі. З 1988 года ўзначальвае Сінод Беларускай праваслаўнай царквы.

**• 22 сакавіка**

1943 год — фашысцкія карнікі спалілі беларускую вёску Хатынь і яе жыхароў. Загінула 119 чалавек, у тым ліку 75 дзяцей. У 1969 годзе на месцы спаленай вёскі створаны мемарыяльны комплекс у памяць ахвяр фашызму на Беларусі.

1970 год — у Жупранах (Гродзенская вобласць) адкрыўся літаратурны музей Ф. Багушэвіча.

1995 год — Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацвердзіў найвышэйшае званне "Герой Беларусі", ордэн Кастуся Каліноўскага; для жанчын, якія выхавалі пяцёра і больш дзяцей, — ордэн Маці.

**• 23 сакавіка**

1570 год — Іван Фёдараў, рускі першадрукар, выдаў у Заблудаве (Беларусь) "Псалтыр з Часасловам".

1936 год — у Вільні адбыўся судовы працэс над групай пісьменнікаў і журналістаў Заходняй Беларусі, арганізаваны ўладамі Польшчы — "працэс 16-ці".

**• 24 сакавіка**

1908 год — газета "Наша ніва" паведаміла аб выхадзе першага зборніка паэзіі Янкі Купалы "Жалейка".

**• 25 сакавіка**

1935 год — у Мазыры пачаў дзейнічаць калгасна-саўгасны тэатр (у 1938—1941 гадах — Палескі абласны драматычны тэатр).

1966 год — выйшла Пастанова Савета Міністраў БССР аб адкрыцці ў Брэсце інжынерна-будаўнічага інстытута.

**• 26 сакавіка**

1936 год — нарадзіўся Анатоль Кудравец. Беларускі пісьменнік. У 1972—1974 гадах — галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура". З 1978 года — галоўны рэдактар часопіса "Нёман".

**• 27 сакавіка**

1956 год — Кандрату Крапіве прысвоена ганаровае званне народнага пісьменніка Беларусі.

1958 год — у строй дзеючых уступіў Полацкі завод шкловалакна.

1984 год — творчае аб'яднанне "Мінскі трактарны завод" выпусціла двухмільённы трактар.

**• 28 сакавіка**

1958 год — прынята Пастанова СМ БССР аб заснаванні Пастаяннага прадстаўніцтва БССР пры ААН.

1968 год — заснаваны Мінскі камерны аркестр Беларускай філармоніі. Арганізатар і першы дырыжор — Алег Янчанка.

1989 год — міжнародны аэрапорт "Мінск-2" прыняў першых пасажыраў.

**• 29 сакавіка**

1900 год — нарадзіўся Уладзімір Корш-Саблін. Адзін з заснавальнікаў беларускага мастацкага кінематографа.

1931 год — створаны інстытуты АН БССР: Фізіка-тэхналагічны, эксперыментальнай батанікі імя Купрэвіча, эканомікі і літаратуры.

1960 год — БССР далучылася да Канвенцыі 1928 года аб міжнародных выставах.

**• 30 сакавіка**

1982 год — пачаў дзейнічаць Тэатр-студыя кінаакцёра кінастудыі "Беларусьфільм". Узнік як эксперыментальны тэатр пошуку арганічнага аб'яднання мастацтва, кіно і тэатра. У рэпертуары сучасная драматургія, якая падымае вострыя маральна-этычныя і сацыяльныя праблемы.

Падрыхтаваў **Аляксандр ДЫНІКАЎ.**

«Голас Радзімы»

Рэдактар Наталля САЛУК

**Заснавальнікі:**

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1639 экз. Індэкс 63854. Зак. 426.
Падпісана да друку 9.03.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

НАШ АДРАС:
220005, Мінск,
праспект. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82